# Міхаіл Васільевіч Ламаносаў

(175 год з дня смерці)

Міхаіл Васільевіч Ламаносаў нарадзіўся ў 1711 г. каля горада Халмагор на Паўночнай Дзвіне. Бацька яго, просты селянін-памор, браў з сабой сына на паруснік, калі плаваў па Беламу мору. Гэтыя паездкі моцна загартавалі хлопчыка Мішу.

19 год Ламаносаў пайшоў пехатой у Маскву. Ён хацеў вучыцца.

Сялян тады не прымалі ў школы. Ламаносаў скрыў, што ён селянін, і паступіў у Заіконаспаскую школу.

Праз пяць год яго накіравалі, як лепшага вучня, у Пецербургскі універсітэт, а адтуль, як лепшага студэнта, у Германію—вучыцца хіміі і металургіі.

Ламаносаву прыходзілася цярпець нястачу, голад. Над ім здзекваліся. Але гэта не перашкодзіла яму вывучыць навукі і, нават, абагнаць у сваім развіцці і ведах заходніх вучоных настолькі,



што яго адкрыцці і погляды на прыроду здаваліся гэтым вучоным чымсьці казачным.

Вярнуўшыся ў Расію, ён хутка стаў прафесарам хіміі. Але Ламаносаў быў не толькі хімікам. Ён быў і паэтам, гісторыкам і гарняком, фізікам і геолагам, астраномам і мастаком. Ён зрабіў важныя адкрыцці ва ўсіх галінах навукі. Праз 30—50—70 год пасля яго смерці нанава „адкрывалася“ тое, што было адкрыта ў свой час Міхаілам Васільевічам.

Толькі ў нашы дні здзейснена мара Ламаносава аб заваяванні Поўначы.

Ламаносаў з'яўляецца заснавальнікам Маскоўскага Універсітэта.

Памёр Міхаіл Васільевіч 15 красавіка 1765 г.

Мы ганарымся Ламаносавым—першым рускім геніяльным вучоным.



ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Красавік 1940 г. № 4



Давід Лукашвілі

# ЧУЛАЯ КОШКА

Рысункі М. СВЯЦКАГА

Ноч. Лье дождж. Вецер свішча і бушуе па вуліцах. Цемра агарнула ваколіцы старога Тыфліса. У вузкіх вуліцах зусім цёмна. Толькі дзе-ні-дзе ў завулках мільгацяць ліхтары. Людзі, напалоханыя непагоддай, пахаваліся па хатах. Часамі ля ліхтара прамільгне чыя-небудзь фігура.

Воддаль ад ліхтара паказаўся прахожы. Пры слабым святле ледзь можна было разгледзець яго твар. Прахожы быў у шэрым паліто, з шалікам вакол шыі і ў фетравым капелюшы.

Гэта Сосо, любімы ўсімі свядомымі рабочымі,—Сосо Джугашвілі.

Сосо прайшоў вуліцу. Стала цёмна. Раптам ён пачуў мяўканне кошкі.

— Мяў, мяў, мяў—і нешта мяккае дакранулася да яго ног. Сосо спыніўся, каб не заціснуць жывёлу.

— Кісанька, дождж і цябе намачыў. Мабыць, ты беспрытульная і таму засталася на вуліцы.

Падарожнік нагнуўся, падняў кацянё, прытуліў да грудзей і пайшоў далей. У падзяку кацянё замурлыкала.

Было за поўнач, калі Сосо вярнуўся да сябе дамоў. Памыўшы рукі, дастаў з шафы кілбасу, якая засталася ад ранішняга снедання, сыр, хлеб і з апетытам пачаў вячэраць. Адначасова ён частаваў свайго маленькага гасця. Кацянё мурлыкала і прагна з'ядала кавалачкі кілбасы і ўдзячнымі вачыма глядзела на свайго збавіцеля.

Прайшоў час. Сосо прывык да кошкі. Штодзень ён прыносіў ёй яду. У вольны час забаўляўся з ёю; ён нават вынуў шкло з акна, каб кошка магла выходзіць на вуліцу. І яна так прывыкла да гаспадара, што калі ён ішоў куды-небудзь, то яна цэлы дзень сядзела ля варот і глядзела на вуліцу, чакаючы звароту гаспадара.

Калі Сосо ішоў спаць, кошка клалася на пасцелі каля яго ног і мурлыкала, нібы спяваючы калыханку свайму гаспадару. Так шчасліва працякалі дні.

Аднаго разу Сосо кудысьці выехаў і перад ад'ездам папрасіў хатнюю гаспадыню:



— Цёця, вельмі вас прашу, да майго звароту карміце гэту кошку. Звяртайце ўвагу, каб дзеці не мучылі яе. Не ўстаўляйце шкла, каб кошка магла вольна выходзіць і ўваходзіць у пакой.

Ён узяў на рукі кошачку, гладзіў рукой яе. Кошка была надзвычайна чуллівая і прыціскалася да свайго гаспадара.

Праз некаторы час Сосо вярнуўся ў Тбілісі. На яго твары была ўсмешка: здорава расквітаўся ён з меншавікамі на дыскусіі. Пры гэтым ён стварыў там моцную аргані-





зацыю. А тут забастоўка дасягнула сваёй мэты: зволеных рабочых прыняў назад фабрыкант.

Ад трамвая да яго кватэры недалёка. Па дарозе ён купіў крыху кілбасы, хлеба, загарнуў у газету і шпаркімі крокамі рушыў да сябе дамоў. Дома ў яго кошка, гэта для яе ён купіў гасцінец.

Вось увайшоў ён у двор і вачыма шукае кошку, але яе не відаць. Уважліва аглядаецца; мабыць, выбяжыць яна, і, як звычайна, пачне лашчыцца да ног. Ён увайшоў ва двор і паглядзеў на акно. Сігналы небяспекі—белай паперы на шкле няма. Значыць, нічога дрэннага не адбылося на кватэры і паблізу. Ён узбег на лесніцу і адчыніў дзверы ў кватэру гаспадыні.

— Добры дзень, цёця, як жывеш? Нічога дрэннага?

— Мой сынок, нічога дрэннага не адбылося, усё ў парадку.

— А як мая кошачка?

— Кошачка? Ведаеш, што яна зрабіла? Пасля твайго ад'езда не стала нічога ў рот браць.

— Чым-жа яна харчавалася?

— Засумавала, мой сынок, вельмі засумавала пасля твайго ад'езда. З нашых рук не хацела нічога прымаць. Увесь час сядзела пад варотамі і глядзела на дарогу, чакаючы цябе. Колькі разоў знімала яе з варот, давала яду, але нічога не дапамагала. У пакой для яе ставілі яду, яна не дакранулася да яе, пачынала мяўкаць, драпацца аб вокны, выбягала на двор, хадзіла па ўсяму двару і хутка зноў з'яўлялася наверсе варот і глядзела на дарогу.

— А зараз дзе яна, цёця?

— Загадала доўга жыць, мой сынок. Аднаго разу мае дзеці сцягнулі яе з варот, яна была ўжо нежывая.

— Значыць, памерла мая кісанька?—з захаваным сумам сказаў Сосо і на некаторы час задумаўся.

— Так, сынок, памерла бедная кошачка.

— Бедная,—ціха пра сябе паўтарыў Сосо і, шпарка адчыніўшы дзверы, накіраваўся ў свой пакой.

Гаспадыня зайшла за ім у пакой, падышла да стала, запаліла лампу і паглядзела на Сосо, які зняўшы паліто, вынімаў з кішэні нейкія паперы.

— Пакуль змяркаецца, можа яшчэ рана запальваць лампу?

— Няхай гарыць, гэта патрэбна.

— Ты ведаеш, Сосо, што твая кошачка ўсіх нас здзівіла, якая разумная і якая адданая. Поўвека я пражыла ўжо і нічога такога не бачыла. Дзіўна, як можа чалавек так прывучыць да сябе жывёлу?

Сосо сеў за стол і з напружанай увагай пачаў чытаць номер „Іскры", ужо не чуючы гаспадыні.





# Дзед і ўнучка

*(Урыўкі з апавядання „Ядвісін дуб“)*

*М. Лынькоў* (Працяг) Рысункі А. Волкава

Ядвіська не памятае, як было ўсё гэта. Яна не магла сцярпець знявагі над хворым дзедам. Схапіўшы камень, што ляжаў на дварэ, яна кінулася на гэтага злоснага пана, які падняў руку на дзеда Януся. Пан Зыгмунт падаўся перапалоханы назад, ён выпусціў ланцужок ад страху. І дзікі прарэзлівы дзяціны крык паласнуў паветра, сцішыўшы і жаночы енк, і трэск ламаемых стрэх.

Ледзь адцягнулі ад дзіцяці панскага дога. Салдаты кончылі сваю працу, маўкліва выходзілі з вёскі. Яны забралі некалькі чалавек з сабой, каб весці ў горад, у турму.

Над хатамі стаяла ноч, пустая, глухая. Людзі завешвалі старымі дзяругамі чорныя яміны вокан, дзвярэй, масціліся нанач, укладвалі спаць дзяцей.

Некалькі жанчын завіхалася ў дзедавай хаце. Патрэсквала чадная лучына і ўсё гасла. Раздзьмухвалі вуголле на камянку,— ён адзін застаўся ад печы,— зноў палілі лучыну і ў трапяткім святле яе завіхаліся ля лавы, дзе, ахутаная ў кажух, ляжала Ядвіська. Абмылі твар ёй, абвязалі чыстай хусцінкай парваную шчаку, падрапанае плячо. І нехта весела сказаў:

— Ну нічога, будзе жыць! Каб-жа на шчасце!

І пайшлі. Згасла лучына. А дзед сядзеў усё, сядзеў. Сухія камякі падкатвалі к горлу, але вочы былі сухія ў дзеда, дужа скупы быў дзед на слёзы. А яму хацелася заплакаць. Хацелася крыкнуць так, каб ад голасу таго загаласілі камні белыя ў лесе, халодныя зоры ў небе. І не мог дзед заплакаць. Ён сядзеў здрантвелы на лаве, прыслухоўваўся да няроўнага дыхання ўнучкі і адчуваў, нібы і душа дрантвее ў ім, робіцца жорсткай такой, шурпатай. Дужа любіў дзед усё жывое на свеце, шкадаваў ваўчанё забіць, пакуль не абрасце злою поўсцю ваўчынай, не адгадуе зубоў ваўчыных, няўмольных. А як-жа на чалавека руку падняць?



Доўга абуваўся дзед, не паліўшы лучыны. Надзеў лепшую світку, падперазаўся поясам новым—падарунак унучкі. Намацаў сякеру пад лавай, заткнуў за пояс яе. Пастаяў ля лавы, памацаў унучын лоб—быў ён потны, гарачы.

— Ну, што-ж, даруй мне, унучка...— пра-казаў шэптам і пайшоў з хаты.

Глухая восеньская ноч стаяла над зямлёй. Вечным гудам сваім поўніўся бор. На махавых сцежках не ўчуеш хады чалавечай.

Так і не бачылі з таго часу дзеда.

Сышоў у ноч і знік.

---

Перад самай зімой ужо вылоўлівалі карасей з панскай саджалкі. Тады вылавілі і дзеда Януся. З-пад самай вярбы, з-пад карэнняў, выцягнулі яго панскія батракі - рыбалкі.

Дзеда пахавалі пад агромністым дубам, што за саджалкай на ўскрайку графскага лесу.

---

Пасвіла Ядвіська панскіх цялят. Ледзь золак уставала яна і гнала свой статак у поле. І аж да позняе восені хадзіла яна за панскімі цялятамі, спявала ім нейкія свае песні, пляла сабе вянкі з палявых рамонкаў, з лугавых кураслепаў і ўпрыгожвала імі свае русыя косы. Зусім было мала людзей у полі, ніхто не клікаў яе едзькай-недаедзькай, ніхто не даваў у полі кухталя ў плечы, не агрызаўся на яе з бруднай лаянкай. Дужа любіла яна тое месца пад дубам—дзеда Януся дубам. На самай макаўцы было буслава гняздо і заўсёды чуваць, як клякочуць маладыя бусляняты, як падлятае цыбасты бусел, гучна маша крыламі, калі садзіцца на край гнязда. А колькі рознай птахі дробнай віецца ля буславага гнязда, цэлы дзень не змаўкае іх гаманлівы вэрхал, вясёлая летаніна. То з саломінай, то з доўгім конскім воласам, то з цяжкім чарвяком ляціць гэта неўгамонная птаха. Усядзецца адпачыць на белым камені дзедавай магілы і натужна ўспырхвае са сваёй ношкай, цяжка трапеча крыллем, узнімаючыся ўгору да дубовай вяршыні. Восенню тут багата жалудоў. Цэлы прыпол набярэ іх Ядвіся і гуляе сама з сабой у каменьчыкі. Потым прынясе іх дамоў, да цёткі Зосі. З жалудоў рабілі жалудовую каву, і цётка Зося частавала гэтай кавай панскіх батракоў ды знаёмых людзей.



Прытульнае месца пад дзедавым дубам, ці як пачалі зваць яго, Ядвіськіным дубам, вечна тут яна са сваімі цялятамі. Пад дубам добра і ў дождж, добра і ў гарачы дзень. Палягуць цяляты ў цяньку, вакол дуба, аблізваюць свае халодныя пысы і смешныя, смешныя — жвачку жуюць, нібыто яны ўжо вялікія.

Усё часцей і часцей збіраліся людзі пад дубам. І калі сабраліся аднаго разу аж некалькі чалавек, то адбыліся ў той дзень зусім ужо цікавыя падзеі. Проста з захаду сонца праляцела некалькі вялізных птушак. Яны праляцелі аж над самым дубам. Тады дрыжэла ўся зямля, упала некалькі галінак з буслава гнязда, і ў вялікім страсе разбегліся ядвіськіны цяляты, нарабіўшы ёй багата клопату. І калі яна кінулася да іх, каб сабраць на месца, то набралася сама вялікага страху. Над самай станцыяй,—а яна відаць адсюль, як на далоні,—узвіліся высока ў неба чорныя клубы дыма з агнём, і нешта, страшнае, грымотнае, страсянула зямлю і неба, аж асыпаліся адуванчыкі на мяжы, куды ўпала ад страху Ядвіська. А вялікія

птушкі ляцелі ўжо назад, яны ляцелі зноў над дубам, і Ядвіська дужа баялася, каб не зачапілі яны буслава гнязда,—дзе-ж то будзе тады начаваць ён? Людзі-ж пад дубам былі дужа сур'ёзныя, але-ж яе, Ядвіську, яны запыталі жартаўліва:

— Ну што, спужалася? Бачыла птушак?

— То-ж самалёты,—адказала Ядвіська.

— Так, самалёты... і яны наробяць панам багата клопату, паставяць на месца мазгі панам...—нібы не звярачваючыся ні да каго, прамовіў адзін з людзей. Ядвіська не ведае, прычым тут панскія мазгі, яна мала ведала і пра вайну, пра якую так багата гаварылі ў той дзень людзі.

У графскім двары людзі хадзілі ўзрушаныя, збіраліся купкамі, спрачаліся, перашэптваліся.

А перад самай раніцай пачалася вялікая беганіна ў садзе, у парку, каля графскага дома. Нават Ядвіся, якой боязна было адной заставацца ў хаце, накінула кажушок на плечы і прыбегла да панскага ганку. Людзей тут было, людзей! Батракі ўсе, рабочыя з пільні, нават прыбеглі людзі з Выгодаў. Тыя дык проста з косамі. На паркавай алеі, што вяла на дарогу, стаяла некалькі запрэжаных панскіх карэт. Вакол іх мітусіліся людзі.

Стаў граф на ганку. Быў ён бледны, узрушаны. І ніяк не мог пачаць слова, аж трэсся ўвесь. Пашавеліць, пашавеліць языком і нічога не выходзіць. Толькі і ўдалося яму праказаць:

— Вон, галганы... Пастраляю...

І не паспелі адказаць яму, пачаў хіліцца граф, і каб не падтрымаў яго пан Зыгмунт, то бразнуўся-б ён пластам на каменныя сходкі ганку. Пан Зыгмунт асцярожна апусціў яго на ганак, нечага зняў шапку, потым палажыў тут-жа графскі парасон і куфэрак і бачком, бачком падаўся з ганку, за дом, у густыя паркавыя алеі, падалей ад людзей. Усе падышлі да ганку. Каваль Андрэй, агледзеўшы графа, спакойна праказаў да ўсіх:

— Стары пан загадаў усім доўга жыць... Ну што-ж, то і добра зрабіў, нам клопату меней...

Графскіх коней распрэглі. Маладую графіню з нашчадкамі вялі назад у дом, туды-ж адвялі і ўсіх графскіх нахлебнікаў. Калі адчынялі парадныя дзверы, адтуль кінуўся агромністы графскі пёс, мышасты, у плямінах. З шалёным брэхам кінуўся ён на каваля Андрэя. Той жалезнымі абцугамі як дасць яму паміж воч, толькі і вякнуў пёс панскі і грузна пакаціўся па ганкавых сходках, аж пад самыя ногі Ядвісі.

Аж ускрыкнула ад страху Ядвіська, ногі самлелі, не скрануцца ёй з месца. Але пёс ляжаў нерухомы, і прыгледзеўшыся да яго, радасная, усхваляваная Ядвіська аж запляскала ў ладкі.

— Той! Ён-жа самы, што мяне пакусаў тады! І ён здох! І ён не жывы ўжо, не будзе кідацца на людзей!

Да самай раніцы не ўціхала праца ля панскага дома і ў доме.

А раніцай прышла Чырвоная Армія. І хоць напрацаваліся за ноч людзі і не паспалі як след, але ўсе, як адзін, вышлі на вуліцу, на панскі двор, каб вітаць людзей, якіх так даўно чакалі, пра якіх гаварылі раней толькі шэптам, боязна азіраючыся навакол, а ці няма поблізу якога панскага служкі.

Над выгодаўскім лесам узыходзіла яснае сонца.



# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Недалёка ад г. Бельска нашай рэспубліні знаходзіцца аграмадны векавы лес. Гэты лес мае сусветную вядомасць і называецца Белавежскай пушчай.

Сваю назву яна атрымала ад старажавой белай вежы, пабудаванай у 1276 г. у г. Каменец-Літоўску адным князем. У тыя часы лес даходзіў да горада.

У Белавежскай пушчы было вельмі многа рознай дзічыны, і яна стала ўлюбёным месцам палявання для розных князёў, польскіх каралёў і расійскіх цароў. Паляванні гэтыя спусташалі багаты зверам лес.

У 1409 г. адзін літоўскі князь Ягайла цэлую зіму паляваў у пушчы. Пры гэтым розных звяроў было забіта так многа, што іх мяса хапіла-б на харчаванне статысячнага войска.

Асабліва моцна спусташаў Белавежскую пушчу апошні рускі цар Мікалай II. Для царскіх паляванняў звяры зганяліся ў асобы загон або цэлы ўчастак лесу акружалі салдаты з сялянамі, і ўсе жывёлы выганяліся пад кулі цара і яго світы. Гэта больш нагадвала бойню, чым сапраўднае паляванне.

На тэрыторыі пушчы пастаянна вырубаўся лес.

Так—„па-гаспадарску"—адносіліся паны да багацейшага кутка зямлі—да Белавежскай пушчы.

Чым-жа заваявала сабе пушча сусветную вядомасць?

Белавежская пушча—гэта стары лес. Часцей за ўсё тут сустракаюцца сасна, елка, бяроза, асіна і альха. Але да іх прымешваюцца ў даволі значнай колькасці пароды дрэў паўднёвага паходжання: дуб, клён, граб, ліпа і вяз.



З вялізных непраходных балот, якія займаюць значную частку пушчы, бяруць пачатак многа рэк і рэчак. Галоўныя з іх: Нарэў, Нарэўка і Лесна.

Дрымучыя лясы пушчы даюць прытулак і яду мностcounту звяроў і птушак. Тут водзяцца алені, касулі, кабаны, ваўкі, рысі, барсукі, лісы, куніцы, зайцы, глухары, цецеравы, рабчыкі і чорныя буслы.



Сусветную вядомасць Белавежскай пушчы стварылі стады зубраў—жывёл, якія адносяцца да сямейства быкоў. Зубр—адзіны буйны звер дагістарычнага перыяда, які дажыў да нашых дзён. Рост яго да ягае 1,8 метра у плячы, даўжыня 3,5 метра. Цела зубра моцнае, нязграбнае. Рогі кароткія. Загрывак вельмі высокі і ўтварае сапраўдны горб. Афарбоўка бурая, карычневая. Уся пярэдняя частка цела пакрыта даўгімі цёмнабурымі валасамі. Зубры бродзяць па балоцістых лясах невялікімі стадамі. Харчуюцца яны лісцём, маладымі пабегамі і карою дрэў.



К пачатку XX века зубры захаваліся толькі ў Белавежскай пушчы і ў лясах Каўказа. Каўказскія зубры былі поўнасцю знішчаны белагвардзейскімі бандамі ў час грамадзянскай вайны. Большасць бела-

вежскіх зубраў таксама загінула ў часе вайны, але поўнасцю гэты рэдкі звер не быў знішчан.

Дзякуючы драпежніцкім паляванням паноў зубраў з цягам часу станавілася ўсё менш і менш. У пачатку сусветнай вайны 1914 г. ў Белавежскай пушчы было каля 600 зубраў. У 1915 г. іх было ўжо 250, а потым і гэтыя былі знішчаны, а частка вывезена ва Усходнюю Прусію (Германія).

Пасля сусветнай вайны Белавежская пушча разам з усёй Заходняй Беларуссю была захоплена Польшчай. Польскі ўрад амаль ніякіх мер да аховы Белавежскай пушчы не прымаў.

У 1929 г. у Германіі былі закуплены 4 зубры і завезены ў Белавежскую пушчу. Умовы для іх жыцця і размнажэння тут выключна добрыя. Зараз у пушчы маецца каля 20 зубраў.







У час нядаўніх здарэнняў, калі польскае афіцэр'ё, разбітае ў адкрытым баі, бегла за мяжу, яно рашыла перабіць каштоўных звяроў пушчы. Але мясцовае насельніцтва не дала здзейсніць ім свой варварскі замысел.

З вызваленнем Заходняй Беларусі ад панскага гнёту Белавежская пушча папала ў рукі сапраўднага гаспадара — яна стала ўласнасцю беларускага народа.

Белавежская пушча абяўлена Беларускім Дзяржаўным Запаведнікам.

У развіцці народнай гаспадаркі і навукі нашай рэспублікі пушча адыграе вялікую роль.

Акадэмія Навук БССР прыступіла ўжо да вывучэння гэтага вялікага запаведніка.



Уладзімір Маякоўскі

# ШТО НІ СТАРОН[КА]



1 Адкрывай старонку-дзверы —
ў кніжцы
знойдзеш розных звераў.

Льва паказваю тут я —
Звер з мядзведзя ростам.
Ён цяпер не цар звяр'я,
старшыня ён проста.



2 Гэты звер завецца лама.
Лама-сын
і лама-мама.
Маленькі пелікан
і пелікан-велікан.
Гэта зебры.
Ну і цацы!
Паласацей за матрацы.

3 Як жывыя ў кніжцы радам
слон,
сланіха
і сланяты.
Два паверхі будзе рост,
вушы па талерцы,
спераду на мордзе хвост —
„хобатам" завецца.
Ў ляпе, нібы
вілы — восці,
два клыкі
слановай косці.



4 Колькі ім яды, піцця,
колькі плацця знашваць ім!
Нават іхняе дзіця
ростам з бацьку нашага.
Кракадзіл. Граза дзяцей.
Лепей не гнявіце.
Любіць воду — цэлы дзень
у вадзе сядзіць ён.



## ...КА — ПРА ЛЬВА І СЛАНЁНКА

Рысункі Гр. Пархоменко.

5 Вось вярблюд, а на вярблюдзе
возяць кладзь
і ездзяць людзі.
Ён жыве сярод пустынь,
есць нясмачныя кусты
і працуе без спачыну —
ён
рабочая скаціна.



Звер пацешны — кенгуру.
Рукі ўдвое карацей.
Ды за гэта ў кенгуру
ногі ў два разы даўжэй.



6 Жыраф-доўгашыйка —
ніяк
падабраць
для шыі не можа ён каўнера.
Жырафцы лепш:
жырафку-мац
ёсць за што
абнімаць дзіцяці.

Малпа.
Не знайсці смяшней.
Што сядзіць, як статуя?
Ўсім падобна на людзей,
толькі што хвастатая.

7 Паглядзеў усіх звяроў —
з Афрыкі, з Амерыкі.
А цяпер
пара дамоў.
Ну, бывайце, зверыкі!

Пераклад А. Якімовіча





# Кніжка

ЯНІНА БРАНЕЎСКАЯ

Рыс. БЕРКОВІЧА

Янек Шэўчык ішоў па самай сярэдзіне размоклай дарогі. Пераскокваў з горкі на каменчык, з каменчыка на сухі астравок. Дарога была з выбоінамі. Пільна трэба было глядзець сабе пад ногі, каб не ўпасці ў вялікую лужыну. А тут яшчэ гэтыя вялізныя парваныя боты, даўгія, як тыя лодкі. Хоць і прывязаў іх моцна Янек шнурком, але пакручваюцца яны вакол ног. Вось і скачы тут цэлых чатыры кілометры туды і назад. У школу і са школы. Разам будзе восем.

Гразь булькоча, пырскае. Відаць, Янек ужо прывык да такога падарожжа. Памахвае сабе торбачкай, якую пашыла яму маці са сваёй старой спадніцы. Пры кожным узмаху ў торбе чуваць грукат. Гэта стукаецца кніжка аб стары пенал, які Янек сам змайстраваў з дошчачкі. Кніжка! Якая-б ні была кніжка, але ёсць. Тры гады вучыліся па ёй хлапчукі млынара, куды маці ходзіць даглядаць тлусценькіх каровак ды віскатлівых парасят. Добра, што маці хоць такую кніжку выпрасіла. Кніжка сапраўды—страшыдла. Замурзаная, спэцканая кляксамі, з паабдзіранымі краямі. Але гэта было-б яшчэ з поўбяды.

Строгі пан настаўнік пакрычаў-бы на Янека, што ён такі няхлюй, і толькі. Так ужо і вышла-б, што нібы сам Янек спэцкаў новенькую кніжку. Але хлапчукі млынара такія балаўнікі. Адзін з іх намаляваў Лысаму пану з вялікай маршалкоўскай булавой казліную бародку.

Ужо на першым уроку здарылася жахлівая прыгода. Строгі пан настаўнік убачыў гэты мастацкі твор млынарова хлапчука. Многа не пытаў, а толькі—лап! Ды за тоўстую лінейку. А потым—пац! пац! па Янкавай руцэ.

— Нягоднік! Паганец! Я навучу цябе паважаць пана маршалка!

Янек нават і слова не мог прамовіць. Ды і што ён мог-бы сказаць? Што гэта зрабіў не ён, а млынаровы хлопчык? Што-б тады было з маці? Маці ён нічога не сказаў, ды і навошта? Ці мала ў ёй сваіх клопатаў? А хоць-бы і сказаў, дык усё роўна не пайшла-б у школу пытаць, чаму пакрыўдзілі Янека. І без таго ледзь удалося ей аддаць ў школу сынка.

— Няхай гусі пасвіць, на што яму навука? можа, у дактары пойдзе, ці што?—мармытала гнеўна жонка млынара.

Ды і строгі настаўнік круціў носам, што Янек абарваны як чучала гарохавае, а ў школе і так цесна. Усё-ж неяк матка ўпрасіла. Гусі Янек сапраўды раней пасвіў, але да школы—вясною, летам, восенню. Зараз зіма. Толькі размоклая дарога паказвае, што неўзабаве ў вучэнні будзе перапынак.

Ідзе Янек і весела пасвіствае.

Ну, вось ужо і лясок! Потым будзе яшчэ мосцік, за мастком кузня, а за кузняй і школа. Хоць-бы ў самы час прыйсці! Вельмі цяжка патрапіць падняцца, як толькі прапяе гадзіну певень суседа. Жыве маці ў цёмнай каморцы, якую наймае ў глухой Антоніхі. Толькі пад самай столлю ёсць малюсенькае акенца, як

гэта звычайна бывае ў такіх каморках, дзе гаспадары трымаюць лапаты, мяхі з зернем ды звязкі грыбоў.

Чаго-ж тут дзіўнага, што Янек і сёння прышоў у школу на дзве гадзіны раней. Хата была наглуха замкнута. Настаўнік так храпеў, што чуваць было пад акном.

Ходзіць стомлены Янек вакол школы. Рукі скачанелі. У будцы пазяхае Азор. Янек аклікнуў. Але Азор не адгукнуўся. Скруціўся сабе ў цёплы клубочак.

— Азор, а ці не пасунешся трохі?—пытае Янек, усоўваючы галаву ў будку.—Дай-жа хоць сагрэцца.

Пэўна, Азор зразумеў Янекаву просьбу. Штосьці толькі мыркнуў і пусціў госця ў сваё памяшканне.

Сядзіць Янек у сабачай будцы і пільна глядзіць, каб хто яго не ўбачыў. Ад цяпла пачынаюць зліпацца вочы. Каб як-небудзь адагнаць сон, дастае з торбачкі кніжку і пачынае яе пераглядаць. Ёсць! Зноў гэтая патрапаная старонка, а на ёй лысы пан з казлінай бародкай.

Янек чытае паволі:

„Цудоўная і багатая наша айчына! У буйных гарадах колькі ёсць касцёлаў, палацаў і фабрык! Дзеці вучацца ў прасторных, светлых школах. І дзеці вельмі кахаюць нашага маршалка, які жыве ў прыгожым палацы". Янек чытае старанна. Пры слове „маршалак" зноў запяклася рука...

Азор наставіў вушы. У школе пачаўся нейкі рух. Паглядзеў Янек і хуценька выбраўся з будкі. Ды і пара было, бо ўжо рыпелі дзверы. На парог вышаў заспаны настаўнік. Пазяхнуў таксама, як і Азор.

— Га, нягоднік! Як-жа ты выглядаеш? Боты захлюпаныя! Паліто змятае! Ну, хутчэй, хутчэй! Прынясі вады ды запалі печку! А выглядаеш, як нейкае страшыдла! Сорам і трымаць цябе ў школе! Ды яшчэ і падлогу падмяці! Да званка яшчэ далёка, толькі не марудзь...



Прынёс Янек вады, запаліў печку і паслухмяна падмёў цеснае і цёмнае школьнае памяшканне. Сядзіць Янек у пустым яшчэ класным пакоі і думае:

— Дзе-ж праўда? У кніжцы ці тут у нас? За што павінны ўсе дзеці любіць лысага пана? Ці за такія боты, ці за цёмную каморку з мышамі, ці за гэты цесны клас, ці за тыя „лапы" настаўніка, ці за гэтыя размоклыя дарогі?

Думае Янек, думае і дадумацца ні да чаго не можа. А са сцяны глядзіць той самы лысы пан, толькі без казлінай бародкі, і ўсміхаецца.

Янек ведае вёску бедную, з састарэлымі хацінкамі, крытымі саломай. У кніжцы пішацца аб нейкім багацці, якога ні адзін з вучняў школы ніколі не бачыў. Кніжка выхваляе цудоўныя, светлыя, каменныя школы, а Янек сам падмятаў брудную і цёмную хату. Кніжка піша аб добрым пане настаўніку, а Янку дагэтуль баліць рука.

* * *

Але не адзін Янек Шэўчык разважаў так у пустым, цёмным класе. Па ўсіх размоклых дарогах у былой Польшчы хадзілі па гразі вясковыя дзеці. Тыя, што маглі паступіць у школу. Бо цэлы мільён дзяцей зусім не хадзіў вучыцца. У вёсцы дзеці пасвілі гусей і кароў. У гарадах бегалі па смуродных сточных канавах, прадавалі газеты і цукеркі на рагу вуліц.

Зараз, калі я бачу шчаслівую савецкую дзетвару, я спакойна думаю аб будучым вольным, радасным жыцці. Ні ў адной краіне не жывецца так добра самым маладым грамадзянам, як у нашай вялікай сацыялістычнай Радзіме. А наш Янек Шэўчык, як лёгка дагадацца, жыў яшчэ ў былой, панскай Польшчы. Ці гэта не праўда, што ў яго не было радаснага дзяцінства?

Пераклад з польскай мовы **М. Байкова.**



# ШПАКІ

З. ТЭЛЕСІН

Рысункі ГЕДДЫ

Я цэлы дзень шпакоўню
Стругаў і скроб нажом;
На жэрдцы вышай стрэхаў
Яе прыбіў цвіком.

Зрабіў з фанеры сценкі,
Для даху гонт знайшоў.
Я дзірачку прарэзаў,—
То дзверы для шпакоў.

Кавалачкам валёнка
Заслаў гняздо шпакам,
Каб дарагія госці
Адпачывалі там.

— Хутчэй-жа прылятайце,
Вясёлыя шпакі!
Вам будуць тут ласункі—
І мушкі і жучкі.

Чамусьці іх нячутна,—
Мо' збіліся з пуці?—
Шпакоўню каля хаты
Цяжка ім знайсці?

Што здарылася з імі,
Не бачаць наляту?
Мая-ж шпакоўня відна
За цэлую вярсту.

І куранят і качак
Магу завабіць тут.
— Цып-цып, — курэй так клічуць,
А качак;—вут, вут, вут.

Якімі-ж мне славамі
Завабіць-бы шпакоў?
Я стаю да змрокаў
І мармычу без слоў...

Устаў я на світанні,—
Не мог я болей спаць,
Я выскачыў на ганак,—
Што новага чуваць?

І дзіва!—над шпакоўняй,
Над новаю маёй,
Вялікі шпак лятае
З усёй сваёй сям'ёй.

*З яўрэйскай мовы пераклаў*
**Р. КАЗАК.**



# Лодачкі

Н. НОСАЎ.

Рысункі К. ГЭДДЫ

Аднаго разу мы з Валей заблудзіліся. Мы тады яшчэ маленькія былі. Гэта ў мінулым годзе здарылася, увесну. Мы вышлі на вуліцу, кругом ручаі цякуць. Валя кажа:

— Давай, Пеця, лодкі пускаць.

Я кажу:

— Давай!

Мы вярнуліся дахаты, зрабілі з паперы дзве лодачкі, потым пайшлі на вуліцу і пусцілі ў ручэй. Лодкі паплылі, а мы бяжым за імі. Куды лодкі, туды і мы; яны на другую вуліцу, і мы на другую вуліцу, яны праз дарогу і мы праз дарогу.

Я крычу:

— Мая ўпрадзе!

— Не, мая! — крычыць Валя.

— А от і не твая!

— Не, мая!

Раптам ручэй пад зямлю пайшоў і лодкі панёс з сабой. Мы падбеглі, а там адтуліна з жалезнай рашоткай. Вада праз рашотку проста ўніз падае.

— Прапалі нашы лодачкі!—кажа Валя.

— Ну, нічога! — кажу.—Мы сабе новыя зробім. Пойдзем дахаты.

Пайшлі назад. Ішлі, ішлі, усю вуліцу прайшлі, а дома ўсё-ж не відаць.

— Дзе-ж наш дом? — пытае Валя.

— Не ведаю! — кажу. — Мабыць, на другой вуліцы.

Павярнулі на другую вуліцу, а дома і там няма. Мы спалохаліся. Заблудзіліся, думаем. Сталі ля сценкі і заплакалі.

Адна цёця спыняецца:

— Вы чаго плачаце?

А мы баімся сказаць, што заблудзіліся. А што, калі нас за гэта ў міліцыю накіруюць! Тут другія прахожыя пачалі спыняцца. Кажуць:

— Напэўна, заблудзіліся рэбяты!

Адзін дзядзька пытаецца:

— Дзе вы жывеце? Я адвяду вас дахаты.

Мы кажам:

— Не ведаем.



— Вось дык штука! — кажа дзядзька. — Куды вас весці?

— У міліцыю трэба, — кажуць іншыя. — Там разбяруць.

Тут міліцыянер падышоў.

— Што здарылася? — пытаецца.

Яму адказваюць:

— Рэбяты заблудзіліся!

А мы ўбачылі яго і яшчэ горш расплакаліся.

— Чаго вы спалохаліся? Я-ж не кусаюся! — кажа міліцыянер і ўсміхаецца:

Я кажу:

— Мы не хочам у міліцыю!

— Ды я і не забяру вас у міліцыю. Пойдзем, я знайду ваш дом.

Ён узяў нас за рукі і павёў. Па дарозе пытае:

— Як цябе зваць, хлопчык?

— Пеця.

— А цябе, дзяўчынка?

— Валя.

— А мяне, — кажа, — дзядзя Ваня. Як-жа гэта вы заблудзіліся? Шкада, што вы не ведаеце, дзе жывеце. Вось я, калі быў маленькі, усё ведаў: і вуліцу, і нумар дома, і прозвішча, і як зваць папу!

— Я таксама ведаю сваё прозвішча, — кажу я.

— А ну, скажы!

— Сомаў. А папу зваць Валодзя, а маму Оля.

— Малайчына! — кажа міліцыянер. — Пачакайце-ж я запішу.

Валя кажа:

— А ў нас яшчэ ёсць маленькае кацянё, яго зваць Васька. Запішыце!

— Ваську не трэба, — кажа міліцыянер.

— А папу навошта?

— Каб не забыць. Прыдзем у міліцыю, я спытаю, дзе твой папа жыве, мне і скажуць. У міліцыі ўсё ведаюць!

Тут мы падыйшлі да вялікага шэрага дома, падняліся па лесніцы і апынуліся ў пакоі. Там стаяў стол, а на стале ляжалі кубікі, кніжкі з малюнкамі і розныя цацкі.

— Пагуляйце тут. Я зараз вярнуся, — сказаў міліцыянер і вышаў. А нам зусім гуляць не хочацца. Мы сядзелі, сядзелі і давай зноў плакаць. Тут міліцыянер прыходзіць:

— Зноў плачаце?! Эх, вы! У нас дарослыя і тыя не плачуць! Пойдзем, я ўжо ведаю, дзе жывеце. — Пясчаная вуліца, нумар восем. Гэта зусім недалёка.

Мы пайшлі з ім па вуліцы, звярнулі за вугал, потым за другі і апынуліся перад нашым домам. Я як закрычу:

— Вось наш дом! Вось гэты зялёны, а крыша чырвоная!

— Ну, зараз бяжыце самі, — кажа міліцыянер. — Ды глядзіце, не забывайце свой адрас: Пясчаная вуліца, нумар восем.

Мы гаворым:

— Дзякуй, дзядзя Ваня! Мы не забудзем. І хутка, хутка пабеглі дахаты.





# ДРУЖБА



Е. САДОЎСКІ

Рыс. ВОЛКАВА

Макар Гарбацэвіч і Андрэй Паляшчук—два суседы—вельмі даўно ведаюць адзін другога.

Хоць Макар Гарбацэвіч і Андрэй Паляшчук не маладыя ўжо людзі, але ў дружбе ёсць нешта юнацкае, нявянучае. Раніцою адзін без другога яны не ідуць на завод, разам яны і з работы вяртаюцца. На цвікавым заводзе працуюць абодва ў дротавым цэху, станкі іх стаяць побач, у рабоце яны спаборнічаюць. Часам у канцы месяца перавага бывае на баку Макара. Тады Андрэй затрымаецца ў цэху, лішні раз разбярэ і пачысціць станок. Ён стараецца дагнаць свайго прыяцеля. Як-жа так: разам ішлі і, раптам, адзін наперадзе!

Служылі яны ў адным палку, былі на адным фронце, у адных баях, разам ішлі на Варшаву, 11 ліпеня 1920 года вызвалялі Мінск і ў гэтым баі Макар быў паранен. Андрэй разадраў сваю кашулю і перавязаў рану Макару, спыніў кроў і вынес таварыша на сваіх плячах з боя. Потым ён знайшоў санітарную двуколку, асцярожна паклаў на яе Макара, а сам выпіў нахаду флягу вады і пабег назад у бой.

За адважнасць у баі Макар Гарбацэвіч атрымаў асабістую зброю з надпісам на сярэбранай таблічцы; Андрэй Паляшчук з рук Міхаіла Іванавіча Калініна атрымаў баявы ордэн.

Праз тры месяцы Макар паправіўся і, апіраючыся на руку свайго таварыша, выходзіў з вакзала. І ў сям'і, і на цвікавым заводзе, які толькі-толькі пачынаў ажываць пасля разрухі, цёпла сустрэлі байцоў-героеў. І зноў, як да вайны, чакалі яны адзін другога ля брамы, каб разам пайсці на завод. Расла дружба, змацаваная таварыскай узаемадапамогай у баі.

Ёсць у Макара Гарбацэвіча сын Барыс, ёсць і ў Андрэя Палешчука сынок, на пару месяцаў старэйшы за Барыса. Значыць, не памылімся, калі назавем іх аднагодкамі. І Барыс і Косця вучацца ў адной школе, у адным класе. Барыс, хоць і здольны хлопец, але лянівы, і калі ўжо не падабаецца яму які прадмет—нічым яго не пераканаеш.

Косця Паляшчук не мае вялікіх здольнасцей, але ён уседлівы, старанны. Нават сам настаўнік матэматыкі здзіўляецца: на пісьмовых Паляшчук другім або трэцім здае работы, а Барыс Гарбацэвіч астаецца да званка.

— Хочаш, я табе растлумачу задачу,—гаворыць на перапынку Косця Барысу.

— Падумаеш, прафесар знайшоўся!—пасміхаецца Барыс.—Мы самі з вусамі і за «выдатным», як некаторыя, не ганяемся. Нам і «добра» не зашкодзіць.

— Барыс, Барыс!—акружаюць Гарбацэвіча школьнікі, адцясніўшы Косцю.—На катку сёння выдатны хакейны матч. Пойдзеш?

— Пытаюцца!.. Хоць зараз!—басіць Барыс, голасам падкрэсліваючы сваю салідарнасць.

Ля дзвярэй класа Косця спыняе Барыса і гаворыць:

— Вазьмі сёння мае канькі. Я на каток не іду, а твае, здаецца, у майстэрні.

— Зубрыць будзеш? Ох, сядзяць мне ў касцях гэтыя выдатнікі...

Косця паціснуў плячамі і нічога не адказаў.

Увечары каток быў самым ажыўленым месцам у горадзе. Тысячалампавыя пра-



жэктары кідалі густыя снапы праменняў на роўнае ледзяное поле. Грымела музыка. Спрытныя канькабежцы то імчалі парамі, то, разыходзячыся ў розныя бакі, лёгка кружылі на сваіх вострых каньках. Хакейны матч ужо скончыўся, але на катку было ўсё гэтак-жа ажыўлена. Барыс Гарбацэвіч, здзіўляючы ўсіх сваім умельствам, без стомы імчаў па кругу, раптам ён мяняў кірунак і ішоў напрасцяк, удараючыся ў гушчу канькабежцаў.

Косця Паляшчук таксама быў на катку, ён ужо ўдоволь накатаўся, скінуў канькі і чакаў Барыса—разам весялей ісці дадому.

Раптам на міг пагасла святло і ў настаўшай цішыні пачуўся чыйсці пранізваючы болем крык. Святло зараз-жа загарэлася і Косця паімчаў на сярэдзіну катка, дзе натоўп ужо акружыў кагосьці ляжаўшага на ільду. У Косці сціснула сэрца. У гэтым кароткім крыку яму чуўся знаёмы голас. Але чый?.. Паляшчук праціснуўся ў натоўп і схіліўся над ляжаўшым.

— Бора, Бора!..—дрыжачым голасам закрычаў ён.

Барыс ляжаў на ільду раскінуўшы рукі. Шапка скінулася з яго галавы, а на белым снезе, спаласаваным слядамі канькоў, чырванелі плямы крыві. Косця і сам не ведаў адкуль у яго, заўсёды павольнага і нетаропкага, знайшлося столькі энергіі—ён адшукаў доктара, паклікаў возніка, завёз Барыса дадому і ўсю ноч не адыходзіў ад пасцелі таварыша.

Тры тыдні ляжаў Барыс у пасцелі, і ўвесь вольны час праводзіў каля яго Косця. Чытаў, расказваў аб школьным жыцці, пераказваў змест урокаў. Ля пасцелі хворага збіраліся Макар Гарбацэвіч, Андрэй Паляшчук і Косця. Бацькі ўспаміналі фронт, ліпеньскі дзень 1920 года. Барыс за дні гэтай нечаканай хваробы перамяніўся; не адводзячы вачэй, глядзеў ён на Косцю і знаходзіў у ім нейкія асабліва прыемныя рысы, якіх раней не заўважаў, ці не хацеў заўважаць.

Аднаго разу ўвечары, пасля перавязкі, калі яны асталіся адны ў пакоі, Барыс прыўзняўся і ціха, перажываючы кожнае слова, сказаў:

— Косця... Які я быў неразумны... Ты добры хлопец!

І цяпер дружаць не толькі старыя, але і іхнія сыны. Разам ходзяць рэбяты ў школу і абодва вучацца на «выдатна».



# У ВОЛЬНЫ ЧАС

Якія два гарады і рака СССР запісаны тут.




Склаў Чэміс Е., вучань 53 школы г. Віцебска.

## Загадачны рысунак

*В. Крышталінені*

Уважліва паглядзеўшы на гэты рысунак, скажыце, колькі рэбят, акрамя ўваходзячага, гуляюць у хаванкі?



## Мяч цераз галаву

Інвентар для гэтай гульні не складаны— гумавы або валейбольны мяч.

Жадаючы вытрымаць гэты вясёлы „іспыт" прыгатаўляецца лавіць мяч.

Зацейнік, знаходзячыся за спіной у гуляючага, падкідвае мяч так, каб ён, пераляцеўшы цераз галаву гуляючага, быў ім злоўлен.

За кожны „злоўлены" мяч гуляючаму залічваецца „ачко". Выйграе той, хто першы набярэ 10 ачкоў.

Правілы гульні:

1. Мяч падкідаецца не вышэй, прыкладна, аднаго метра над галавой гуляючага.
2. Ловячы мяч не павінен, у чаканні мяча, паварачваць назад галаву.
3. Калі мяч, недаляцеўшы, упадае ззаду гуляючага або, наадварот, апынецца далёка спераду, у гэтых выпадках мяч кідаецца зноў.



Рысунак вучня 5-га класа Уладзіміра Додалёва. Асінаўскі дзетдом, Чаускі раён.



Рысунак вучня 5-га класа Віці Строма. Шчыткоўская школа, Стара-Дарожскі раён.

Рэдактар А. Бярозкін. Афармленне М. Свяцкага. Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 26.000 экз. Зак. № 2307. $2^1/_2$ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № Б—2745.

Цана 30 кап.





# НАШЫ СУСЕДЗІ

НЕ ГОД, НЕ ДВА, А ШМАТ ГАДОЎ,
А КОЛЬКІ—САМ НЕ ПОМНЮ Я,
ЖЫВЕ ПАД ДАХАМ ПАД АДНЫМ
З НАМІ ВЕТЛАЯ СЯМ'Я.
ПАД КРОКВАМІ, НАД ВОКНАМІ
ТАМ КВАТЭРУЮЦЦА ЯНЫ.
У ЦЭЛЫМ СВЕЦЕ НЕ ЗНАЙСЦІ
ТАКІХ СУСЕДЗЯЎ, ЯК ЯНЫ.
ЯК ТОЛЬКІ ЛЕТА АДПЛЫВЕ,
ЯНЫ ЗА ІМ ЛЯЦЯЦЬ УСЛЕД;
ЯК СНЕГ ВАДОЮ ПАПЛЫВЕ,
НЯСУЦЬ ВЯСНОВЫ НАМ ПРЫВЕТ.
НЯСЕ ХТО ГЛІНЫ ПАКРЫСЕ,
А ХТО САЛОМІНКУ НЯСЕ,
КАБ ХАТКА ЎТУЛЬНАЯ БЫЛА,—
ДЫК РАМАНТУЮЦЬ ЯЕ ЎСЕ.
ЯНЫ ЛЯТАЮЦЬ ПАД ВАКНОМ,
У КОЖНАЙ—ВІЛАЧКАЮ ХВОСТ,
ЛЯЦЯЦЬ, ПІШЧАЦЬ, ПІШЧАЦЬ, ЛЯЦЯЦЬ...
ТАКІЯ Ў ВАС СУСЕДЗІ ЁСЦЬ?